№ 52 (3997)

7 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## ПАСЕ прызначыла назіральнікаў на прэзідэнцкія выбары ў Беларусі

Пра гэта паведаміла прэс-служба Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

У склад місіі назіральнікаў папярэдне ўключаны 27 прадстаўнікоў пяці партый, у тым ліку дакладчык па Беларусі камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях і дэмакратыі Андрэа Рыгоні.

Удзельнікі місіі прадстаўляюць Швецыю, Швейцарыю, Італію, Аўстрыю, Іспанію, Турцыю, Францыю, Германію, Вялікабрытанію і іншыя краіны.

# Прэзідэнцкія выбары: ідзе фарміраванне ініцыятыўных груп.



Няўжо зноў будуць гнаць салдат строем на выбарчыя ўчасткі?

РЭАКЦЫЯ

## Някляева не пачулі

Як патэнцыяльныя кандыдаты ў прэзідэнты ад апазіцыі адрэагавалі на прапанову Уладзіміра Някляева ўсім зняцца з выбараў на карысць экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, які застаецца за кратамі?

Пра гэта расказаў сам Уладзімір Някляеў:

– Калі коратка, рэакцыя патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты на маю прапанову зняцца з выбараў да пачатку рэгістрацыі ініцыятыўных груп і падтрымаць вылучэнне адзіным кандыдатам ад дэмакратычнай апазіцыі палітвязня Мікалая Статкевіча такая...

**Таццяна Караткевіч:** «Гэту прапанову я падтрымліваць не буду. Мы працуем ужо два гады, сабралі 120 тысяч подпісаў – гэта тыя людзі, якія паверылі ў “Народны рэферэндум”. Для мяне гэта пытанне маралі – быць адказнай і паслядоўнай у нашай палітыцы. Таму я буду браць удзел у выбарах”.

**Анатоль Лябедзька:** “Сёння я не фармулюю катэгарычнае “так” ці “не” ў адказ на прапанову Някляева”.

**Сяргей Калякін** прамаўчаў.

РАЗОБЛАЧЕНИЕ

# Когда прекратит кукарекать товарищ Гайдукевич?

*На то интервью, которое дал «Белгазете» одиозный председатель Либерально-демократической партии Сергей Гайдукевич, обратили внимание многие серьезные люди. Отвращение вызывают его популизм, переходящий в грязный цинизм, его флюгерство. А потому, процитировав его очередную демагогию, напомним, что он говорил когда-то и что о нем говорили другие. Выводы читатели сделают сами.*



### С.Гайдукевич – в интервью «Белгазете».

**– Чем вам не нравится Лукашенко?**

– Вопрос некорректный. Некоторые политики почему-то считают, что чем больше на власть прокукарекать, тем больше герой. А я гораздо умнее и поэтому достигаю успехов.

**– Какими будут итоги следующих выборов?**

– Лукашенко на первом месте, Гайдукевич на втором. Других вариантов не может быть даже теоретически.

### Из заявления, подписанного С.Гайдукевичем в марте 1999 года:

«...Проводимые выборы не только фальшивы по своей сути, они сфальсифицированы уже в самом начале их проведения. Нарушений и грубого беззакония, откровенного издевательства над людьми, пытавшимися общаться с избирателями, над их конституционным правом невозможно перечислить.

Высший Совет и Центральный комитет партии констатируют, что в настоящее время проведение любых выборов в Республике Беларусь при существующем Центризбиркоме и исполнительной власти невозможно. Правовой и конституционный беспредел в Республике Беларусь достигли своего апогея».

### От редакции

16 лет прошло с тех пор, когда С.Гайдукевич поставил свою подпись под тем заявлением. Может, Л.Ермошина освободила кресло председателя Центризбиркома? Нет. Может, покинул пост ее первый заместитель Н.Лозовик? Нет. Может, кардинально изменилось избирательное законодательство? Нет. Может, руководит исполнительной властью другой человек? Нет, тот самый. Но флюгер С.Гайдукевич этого не замечает. Он считает, что на сегодняшнюю власть не нужно кукарекать. Мол, он умнее оппонентов власти и поэтому достигает успехов. Каких? Вот что на сей счет сказал ему когда-то товарищ по партии А.Работай.

### Из статьи Александра Работая, подполковника запаса, члена ЛДП «Игроки краплеными картами, или О штрейкбрехерстве Сергея Гайдукевича», опубликованной в «Народной Воле» 12 марта 2004 года:

«Я и мои товарищи по Либерально-демократической партии неоднократно обращали внимание белорусской демократической общественности на сущность такой одиозной личности, как Сергей Гайдукевич. Мы не раз на фактическом материале вскрывали истинные мотивы его политического штрейкбрехерства в угоду официозу.

Главное оружие этого экзальтированного «борца с диктатурой» – дезинформация и откровенная ложь, выдаваемая за правду, которая при ближайшем рассмотрении улетучивается, как болотный туман от утреннего ветерка. Но при этом в воздухе еще долго остается гнилостный запах, отравляющий легкие человека.

...Я неоднократно писал о том, что «обработка» С.Гайдукевичем тех или иных тематических заданий на телеканалах ОНТ и БТ в форме лживых нападок на политических оппонентов направлена прежде всего на их дискредитацию, снижение рейтинга и процента избираемости. Но тут хочется воскликнуть: а не о себе ли господин Гайдукевич ведет речь?! Несмотря на свое «бескорыстное рвение в службе Царю и Отечеству», он, начиная с 1996 года, так ни разу никуда и не избрался (вернее, никуда не прошел по результатам голосования). Даже не попал в Минский городской Совет, хотя на это работала вся партия. На парламентских выборах 2000 года он занял последнее, четвертое, место. Президентские выборы 2001 года и его 2,45% я вообще оставлю без комментариев. Это был полный провал.

...Словом вы, господин Гайдукевич, полнейший банкрот. И, как говорится, чья б корова мычала, а ваша – помолчала б...

С.Гайдукевич – это, поверьте, не лидер, это человек, для которого на первом плане интересы личные, а не общественные. И порядочные люди давно его раскусили».

***

Итак, читатели, делайте вывод сами, кто есть кто.

МАНІТОРЫНГ

# Праваабаронцы бяруць выбары пад кантроль

*Будуць працаваць 50 доўгатэрміновых і 400 кароткатэрміновых назіральнікаў.*

Прадстаўнікі РПГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” і незарэгістраванага цэнтра “Вясна” заявілі аб пачатку грамадскай кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары”.

Арганізатары акцэнтуюць увагу ў першую чаргу на доўгатэрміновым назіранні, якое прадугледжвае маніторынг усіх этапаў выбарчай кампаніі і справаздачы па кожным з іх. У складзе кампаніі будуць працаваць 50 доўгатэрміновых назіральнікаў, размеркаваных па ўсёй тэрыторыі краіны.

За правядзеннем галасавання на выбарчых участках з пачатку датэрміновага галасавання і да падліку галасоў будуць назіраць 400 кароткатэрміновых назіральнікаў на 200 участках для галасавання, інфармуе spring96.org.

*“Выбары – гэта не толькі працэс працэдур па вылучэнні кандыдатаў, падліку галасоў ды агітацыі, але і пэўны клімат, грамадска-палітычная сітуацыя, на фоне якой усё адбываецца. Мы асобна звярталі ўвагу нашых назіральнікаў на тое, што важна адсочваць розныя падзеі, так ці інакш звязаныя з выбарчым працэсам. Мы бачым, што ёсць правакацыі з розных бакоў, шматлікія знешнія фактары, улічваючы сітуацыю ва Украіне, расійска-ўкраінскі канфлікт і ўцягванне ў яго Беларусі. Мы разумеем, што выбарчая кампанія – гэта выклік і для улад, і для ўсяго грамадства. Таму ўсе гэтыя сітуацыі будуць фіксавацца і ацэньвацца з пункту гледжання беларускага заканадаўства і міжнародных стандартаў”*, – паведаміў журналістам старшыня РПГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” **Алег Гулак**.

Важным у дзейнасці кампаніі з’яўляецца менавіта яе праваабарончы складнік.

*“Будуць ацэньвацца як працэдуры, так і падзеі, якія будуць адбывацца падчас выбараў”*, – кажуць праваабаронцы і дадаюць, што кампанія не ставіць мэты падтрымкі палітычных партый, а таксама якіх-небудзь палітычных дзеячаў. – *Увесь выбарчы працэс будзе ацэньвацца максімальна непрадузята, зыходзячы выключна з прынцыпаў свабодных, дэмакратычных і празрыстых выбараў”.*

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗНАКОМЬТЕСЬ

## Синьор генсек



Избран новый генеральный секретарь Парламентской ассамблеи (ПА) ОБСЕ. Об этом говорится в сообщении, размещенном в понедельник на официальном сайте организации.

Им стал Роберт Монтелла (Италия). Он был избран в ходе заседания ежегодной сессии ПА ОБСЕ, проходящей в эти дни в Хельсинки.

Господин Монтелла официально приступит к обязанностям с 1 января 2016 года.

Генеральный секретарь ПА ОБСЕ избирается сроком на 5 лет и может быть переизбран дважды.

СКАЗАНА!

# Хто для Ярмошынай «бацька нацыі»?

Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына зноў вярнулася да пытання, хто лепшы лідар для Беларусі – мужчына ці жанчына.

«Жанчына, вядома, можа і будзе вельмі ўплывовым чалавекам, але яна ўсё ж такі будзе працаваць у нейкай традыцыйнай сферы – кіраваць адукацыяй ці культурай. Але “бацькам” мусіць быць мужчына, гэтакі айцец нацыі», – заявіла кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ў інтэрв’ю праграме «Карціны свету» тэлеканала “РТР-Беларусь”.

Пры гэтым спадарыня Ярмошына адзначыла, што не мае на ўвазе дзеючага прэзідэнта, бо інакш яе «папракнуць у рэкламе аднаго з прэтэндэнтаў». «Я маю на ўвазе такое паняцце, як “айцец нацыі», – удакладніла Лідзія Ярмошына.

Што ж азначае паняцце “айцец нацыі”, калі і ў адносінах да каго яно ўжывалася і ці да месца яно для Беларусі?

У Старажытным Рыме «бацькамі нацыі» былі сенатары. А сенат з’яўляўся сходам вышэйшых дзяржаўных дзеячаў, якія паспелі пабываць на пасадах консула, прэтара, пакіраваць войскам і гэтак далей. Прычым аўтарытэт сената ў тую эпоху быў бясспрэчны, бо ў ім былі сканцэнтраваны лепшыя розумы дзяржавы, уся яго палітычная эліта.

Каб стаць “бацькам нацыі”, не абавязкова было займаць першую пасаду ў краіне. Прыклад – кітайскі лідар Дэн Сяопін, адзін з заснавальнікаў КНР, які ўваходзіў у бліжэйшае асяроддзе Мао Цзэдуна. Пасля смерці «вялікага рулявога» Дэн Сяопін увайшоў у лік некалькіх ключавых кітайскіх палітыкаў, якія рухалі вялікую эканамічную рэформу. Ён так і не заняў ні пасады лідара партыі, ні пасады кіраўніка дзяржавы, затое ён быў старшынёй ключавой у кітайскай палітыцы Цэнтральнай ваеннай камісіі. Гэтая пасада давала яму вярхоўнае галоўнакамандаванне ўсімі ўзброенымі сіламі. Сышоўшы на пенсію, Дэн Сяопін працягваў аказваць ключавы ўплыў на кітайскую палітыку, быў жывым сімвалам і сцягам кітайскіх рэформаў.

У Беларусі дагэтуль увогуле не было традыцыі называць кіраўніка дзяржавы «айцом нацыі». Гэта больш характэрна для Азіі. Так, у 2010 годзе парламент Казахстана абвясціў прэзідэнта Нурсултана Назарбаева «элбасы» – «лідарам нацыі». Дзень абрання Назарбаева (1 снежня) абвешчаны афіцыйным святам – Днём прэзідэнта. У казахскіх школах праводзяцца конкурсы на веданне біяграфіі Назарбаева і гэтак далей, і гэтак далей.

Другім яскравым прыкладам культу асобы кіраўніка дзяржавы з’яўляецца Туркменістан, дзе першага прэзідэнта Сапармурата Ніязава афіцыйна называлі «туркменбашы», што значыць «бацька ўсіх туркменаў». Дайшло да таго, што імем Ніязава пры ягоным жыцці пачалі называць вуліцы, гарады, горы і нават парайменавалі ў гонар прэзідэнта месяц ягонага нараджэння. Праўда, пасля смерці Ніязава ў Туркменістане пачаў імкліва развівацца культ ягонага пераемніка Бердымухамедава, якога ўжо афіцыйна называюць «аркадаг», што значыць «апякун нацыі».

Аднак мы жывём не ў Азіі, а ў Еўропе. Тут ужо больш за тысячу гадоў жанчыны кіруюць не толькі адукацыяй і культурай, але і дзяржавамі. І, бывае, часта значна лепш за мужчын. Кіраўніцтва беларускага ЦВК настолькі ідэалізуе мужчын, што проста не хоча прызнаваць відавочнага.

**Алег СНОЎ.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## 95,2 тысячы беларусаў чакаюць сваю зарплату

Колькасць прадпрыемстваў-даўжнікоў па выплаце заробкаў працягвае павялічвацца. На 1 ліпеня своечасова не атрымалі заробак 95,2 тысячы беларусаў. У агульнай складанасці кампаніі запазычылі ім 411,7 млрд рублёў, паведамляе Белстат.

За месяц колькасць прадпрыемстваў, якія своечасова не разлічыліся са сваімі супрацоўнікамі, павялічылася з 444 да 555. У параўнанні з 1 чэрвеня сума запазычанасці на пачатак гэтага месяца вырасла на 37% – да 411,7 мільярда рублёў.

Лідзіруюць па колькасці прадпрыемстваў-даўжнікоў па-ранейшаму Мінская і Віцебская вобласці. Больш за ўсё прадпрыемстваў, супрацоўнікі якіх з затрымкай атрымліваюць зарплаты, у сельскай і лясной гаспадарках – 400, будаўніцтве – 81, а таксама прамысловасці – 61.

ПАД ГРАДУСАМ!

## Яшчэ два дні спёкі...

*З чацвярга сіноптыкі прагназуюць паступовае паніжэнне тэмпературы.*



Яшчэ сёння максімальная тэмпература днём будзе ад +22°C па поўначы да +29°C па поўдні краіны. У сераду ноччу пераважна без ападкаў, днём у заходніх і цэнтральных раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы, магчымы град. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +12...+19°C, максімальная днём +28...+34°C, па поўдні месцамі +35...+36°C, па поўначы +25...+27°C.

У чацвер на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, ноччу і раніцай у паўднёва-ўсходніх раёнах месцамі моцныя дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Днём па захадзе ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +15...+22°C, максімальная днём +20...+25°C.

У пятніцу чакаецца днём +15...+22°C, у суботу – +16...+23°C, у нядзелю – +17...+24°C.

ВІЗІТ

# Білет да Уфы

Аляксандр Лукашэнка возьме ўдзел у самітах Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС) і краін БРІКС, якія пройдуць 7–8 ліпеня ва Уфе (Расія). Пра гэта паведаміла прэс-сакратар беларускага кіраўніка Марыя Эйсмант. Пры гэтым цікава, што ўдзельнікам ні першага, ні другога міжнароднага ўтварэння Беларусь не з’яўляецца.

ШАС – рэгіянальная міжнародная арганізацыя, заснаваная ў 2001 годзе Кітаем, Расіяй, Казахстанам, Таджыкістанам, Кыргызстанам і Узбекістанам. За выключэннем Узбекістана ўсе гэтыя краіны з’яўляліся ўдзельніцамі «Шанхайскай пяцёркі», заснаванай у выніку падпісання ў 1996–1997 гадах пагадненняў аб умацаванні даверу ў вайсковай вобласці і аб узаемным скарачэнні ўзброеных сіл у раёне мяжы.

БРІКС – група з пяці буйных краін: Бразілія, Расія, Індыя, Кітай, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.

Для Расіі саміт ва Уфе вельмі важны. Мерапрыемства заклікана абвергнуць тэзіс пра тое, што Расійская Федэрацыя апынулася ў міжнароднай ізаляцыі. Таму клічуць усіх. Чакаецца, што на форумы прыедуць больш за 10 тысяч чалавек з усіх канцоў свету. Гэта кіраўнікі як мінімум 12 дзяржаў, сярод якіх Расія, Кітай, Бразілія, Індыя, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Казахстан, Кыргызстан, Узбекістан, Беларусь. Іх павінна суправаджаць світа (міністры, памочнікі, работнікі пратаколу і аховы), а таксама журналісты некалькіх соцень газет і тэлеканалаў. У якасці назіральнікаў прыедуць прэзідэнт Афганістана Ашраф Гані Ахмадзай і іранскі лідар Хасан Раўхані. Беларусь на ўфімскім саміце спадзяецца атрымаць статус назіральніка ў ШАС.

